**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№30(694) 25 ліпеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





21 ліпеня 2013 г. Адкрыццё Вішнёвага фэсту ў Глыбокім. Святочнае шэсце. Наперадзе – каралева Вішнёвага фэсту. За ёй – вішанькі, дзяўчаткі дашкольнага ўзросту ў сукенках колеру спелай вішні і шапках з зялёнымі бантамі.

*Працяг тэмы на стар. 4.*

*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Віцебская вобласць

# На свініну эмбарга

■ Станіслаў Раманчук

**Услед за выяўленнем ачага ўспышкі афрыканскай чумы свіней на Гродзеншчыне праз лічаныя дні зонай бедства стала і Віцебская вобласць.**

Пасля спецыяльных абследаванняў трупаў пяці свіней са свінакомплекса "Лучоса", сельгасфіліяла Віцебскага камбіната хлебапрадуктаў ветслужбы Беларусі і потым Расіі пацвердзілі несуцяшальны дыягназ і ў нашым рэгіёне. Па сутнасці зонай бедства стала ўся вобласць, дзе прыйдзецца ўвесці шэраг абмежавальных мерапрыемстваў і каранцін, а эканамічныя цяжкасці чакаюць саміх вытворцаў і мясакамбінаты ў Віцебску, Оршы, Глыбокім і Мёрах. Адзін з асноўных замежных пакупнікоў Расія адразу ж увяла эмбарга і часова прыпыніла ўвоз з Віцебшчыны на сваю тэрыторыю не толькі свіней і вырабаў са свініны, свіных мясапрадуктаў, але і спермы кныроў, кармоў для жывёлы. Шмат насельніцтва пазбавіцца свіней ў пагражальнай зоне ў радыусе да 40 км ад межаў выяўленага ачага АЧС. Усё свіное пагалоўе тут падлягае ўтылізацыі і знішчэнню. У лясных масівах увялі рэжым зачысткі тэрыторыі. Нашы суседзі ўслед за украінцамі прыпыняць таксама і сертыфікацыю новай прадукцыі, калі ў ёй будзе свіная сыравіна з свінагадоўчых прадпрыемстваў вобласці. На закрыты рэжым працы і ўзмоцненыя меры ветэрынарна-санітарнага кантролю перавялі і буйныя свінакомплексы суседніх Гарадоцкага і Аршанскага раёнаў. Паколькі вірус афрыканскай чумы перадаецца і праз мясапрадукты, дэфіцыт свініны ў гандлёвай сетцы ў бліжэйшы час можа стаць рэальнасцю, калі далейшыя падзеі з АЧС пойдуць па дрэнным сцэнарыі.

## Пастаўскі раён

# Арыентаваны на прагрэс

■ Чэслаў Якубовіч

**Эфектыўна гаспадарыць цяпер патрэбна паўсюдна, асабліва ў сферы гандлю, дзе і ў глыбінцы пашыраецца канкурэнцыя за спажыўца.** Аднак, як і раней, няма роўных на Віцебшчыне па абслугоўванні насельніцтва шматгаліноваму калектыву Пастаўскага райпо, які ў першым паўгоддзі давёў рознічны тавараабарот да 141 млрд. рублёў. З пачатку года ў раёне і за яго межамі было рэалізавана 828 тон хлеба, 175 тон каўбас і мясапрадуктаў, 192 тоны гародніны. У яго сістэме паспяхова працуюць акрамя гандлёвай сеткі сучасныя хлебазавод, кулінарны камбінат, каўбасны, рыбны і квасільна-засолачны цэхі, вялікае гароднінасховішча з камп'ютарным кіраваннем працэсамі. Ужо ў сямі магазінах стварылі папулярныя аддзелы гарачай выпечкі кандытарскіх і дробнабулачных вырабаў прама на вачах пакупнікоў. Неўзабаве ў райцэнтры побач з Палацам Тызенгаўза паўстане трэці па ліку і самы вялікі ў Паставах супермаркет гандлёвай сеткі "Родны кут". А ў вёсцы Лучай паблізу мясцовага старажытнага касцёла адкрыецца сучасны гандлёвы цэнтр. Тэхнічны прагрэс імкліва ідзе і тут, бо і ў сельскай мясцовасці ў крамах устаноўлены электронныя праграмныя комплексы абслугоўвання кліентаў і пайшчыкаў райпо. У гэтым годзе тут набылі дзве адзінкі нямецкага абсталявання для каўбаснага цэха і столькі ж імпартных аўталавак. Вялікай папулярнасцю карыстаецца і новы кафэ-бар "Церамок", пабудаваны ў еўрапейскім старажытным стылі. Сёлета райпо прадала сваёй прадукцыі і за мяжу на 225 тысяч долараў, у Літву будзе пастаўлена чарніц яшчэ на 42 тысячы долараў.

## Верхнядзвінскі раён

# На мяжы трох дзяржаў

■ Кастусь Александровіч

**Год за годам усё меней на нашай зямлі застаецца жывых сведкаў падзей мінулай вайны і саміх салдатпераможцаў.**

Аднак і сёлета на знакамітым Кургане Дружбы ў Верхнядзвінскім раёне, дзе па берагах рэчкі Сіняй праходзяць граніцы трох дзяржаў Расіі, Латвіі і Беларусі ўжо ў 54-ты раз прайшла сустрэча ветэранаў II Сусветнай вайны. Яе ўпершыню правялі ў далёкім 1959 годзе, а сам Курган цяпер знаходзіцца на латышскай тэрыторыі, якая ахоўваецца, і куды допуск без віз забаронены. Аднак нашы суседзі латышы, хоць і адмовіліся ад атрыбутаў савецкага мінулага, тэрыторыю вакол сімвала ваеннага братэства ў Вялікую Айчынную добраўпарадкавалі, навялі ідэальны парадак на берагах прыгранічнай ракі. На месцы ўрачыстасцей зараз прыгожа вызначаны рубяжы злучэння трох суседніх краін. У прыгожы сонечны дзень і на гэты раз прайшла хвалюючая цырымонія братання, а затым традыцыйны мітынг-рэквіум. Пасля хвіліны маўчання ў памяць аб загінуўшых дэлегацыі ўсклалі гірлянды, вянкі і кветкі да помнікаў разведчыцы Марыі Пунта ў Себежскім раёне Расіі і героям Прошкаўскага падполля на беларускай тэрыторыі. Праз латышскіх пагранічнікаў вянок быў перададзены і для ўсклалання на самім Кургане. Свой мітынг прайшоў і на латышскай зямлі, на расійскай канцэртнай пляцоўцы сёлета з'явілася копія сцяга Перамогі, а завяршылася хвалюючая сустрэча пакаленняў традыцыйным вогнішчам і вячэрай на пагранічнай паляне паблізу Кургана Дружбы.

# Аб самым надзённым

## Афрыканская чума свіней імкліва распаўсюджваецца па Беларусі, а ў Расіі ўжо знішчылі больш 400 тысяч галоў

■ Аляксандр Цішкевіч

**Увогуле цяпер павышаецца асабістая адказнасць кожнага за санітарныя правілы ўтрымання і кармлення, хто гадуе свіней. Час падумаць і аб распрацоўцы спецыяльнай вакцыны супраць АЧС, каб яна не стала і агульнасусветнай праблемай. Мы ж цяпер афіцыйна будзем жыць з афрыканскай чумой свіней па суседстве.**

У гэтым годзе новая бяда абрынулася на галовы беларусаў, якія здаўна прывыклі жыць з чаркай і шкваркай. Сёлета гэта зараза, пры якой практычна ўсё пагалоўе свіней гіне, стала пагражаць нават самой свінагадоўчай галіне ў многіх рэгіёнах Беларусі. Замоўчваць гэту праблему ў СМІ ўжо не атрымоўваецца, настолькі сітуацыя сур'ёзная, а любімая многімі суайчыннікамі свінінка неўзабаве можа стаць дэлікатэсам і змяніць спрадвечны ўклад жыцця людзей, якія гадавалі пятачкоў.

У нас прывыклі сцвярджаць, што ўсё добра, ніякай праблемы не існуе, хоць яшчэ летась прыйшлі першыя трывожныя паведамленні аб масавым знішчэнні пагалоўя ў Навагрудскім раёне на Гродзеншчыне. Тады чыноўнікі Мінсельгасхарча Беларусі запэўнілі, што ніякай там чумы не было, а гэта былі вучэнні, калі на падворках вяскоўцаў год назад сталі канфіскоўваць і паліць свіней, праводзіць дэзінфекцыю. Іншая справа наша суседка Расія, дзе адкрыта прызнаюць, што на расійскія прасторы гэты невылечны пакуль вірус, якія можна параўнаць з біялагічнай вайной, пранік яшчэ ў 2008 годзе.

Нашы суседзі спрабавалі справіцца з афрыканскай чумой свіней (АЧС), але асаблівых поспехаў не дасягнулі. Горш таго, зараз у Расіі выяўлена ўжо 47 фактаў успышак АЧС, у выніку чаго там было вымушана знішчана больш 400 тысяч свінога пагалоўя. Матэрыяльныя страты там перавысілі 2 млрд. долараў, у шэрагу расійскіх абласцей на развіцці свінакомплексаў можна ставіць крыж. Як ні сумна, але сёлета відавочна, што чума свіней стала распаўсюджвацца і па нашай краіне (першы сігнал масавы забой свіней у Баранавіцкім раёне вясной).

А ў пачатку лета беларускія ветслужбы прызналі факт АЧС зноў на Гродзеншчыне ў Іўеўскім раёне. Услед за гэтым, як тая чорная хмара, свіная чума ахапіла шэраг раёнаў першай пагражаемай зоны – Стаўбцоўскі, Навагрудскі, Карэліцкі, Валожынскі. Свіны "генацыд" захапіў падворкі насельніцтва і ўсё пагалоўе там забралі і ўтылізавалі. Затым зонай эпідэміі АЧС стала наша Віцебская вобласць, дзе сур'ёзныя ачагі захворвання былі выяўлены ў Сенненскім і Віцебскім раёнах і павінны былі быць выразаны першыя два свінакомплексы.

Акрамя таго існуе панкцыя і пра другія пагражаемыя зоны, шмат дзе, асабліва паблізу буйных свінагадоўчых ферм у зоне 10 км вядзецца адстрэл дзікоў. Свінакомплексы перайшлі на закрыты рэжым працы, узмацнілі іх ахову, а іх работнікам забаронена трымаць свіней на асабістых падворках. У любым выпадку ў ліпені наступствы АЧС адчулі жыхары ўжо чатырох абласцей Беларусі, а на нашу трывожную абстаноўку адрэагавалі суседзі. Першай увяла эмбарга на пастаўкі мяса з Беларусі Украіна. Суседнія Польшча, Літва, Латвія ўвялі абмежаванні на ўвоз любых нашых прадуктаў жывёльнага паходжання.

Расія прыпыніла ўвоз свініны і мясапрадуктаў з яе з тэрыторыі Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Літоўцы найбольш у паніцы, лічаць нашу сітуацыю "някіруемай" і запрасілі ў Еўрасаюза экстранай фінансавай дапамогі для барацьбы з АЧС. А ў нас з гэтым не пагаджаюцца і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанід Заяц запэўніў, што дзяржава кампенсуе насельніцтву страты, звязаныя са знішчэннем свіней па 18 тысяч рублёў за 1 кг жывой вагі. Для барацьбы з гэтай вірýснай хваробай свойскіх свіней і дзікіх кабаноў у нас таксама быў створаны рэспубліканскі штаб на чале з віцэ-прэм'ерам М. Русым.

Прайшлі таксама ў Маскве перамовы з кіраўніцтвам федэральнай ветслужбы Расіі, каб змагацца разам з агульнай бядой. У любым выпадку нас чакаюць наперадзе трывожныя падзеі. Павінны падключыцца і ўкраінцы, бо і да іх можа дабрацца гэта так званая хвароба свіней Мантгомеры. Пакуль такая рэальнасць, што АЧС не лечыцца і з гэтай бядой можна справіцца толькі сілавымі метадамі, знішчэннем пагалоўя свіней на значнай тэрыторыі. Ды і потым вяскоўцам нейкі час (мінімум паўгода) нельга вырошчваць маладняк. Увогуле цяпер павышаецца асабістая адказнасць кожнага за санітарныя правілы ўтрымання і кармлення, хто гадуе свіней. Час падумаць і аб распрацоўцы спецыяльнай вакцыны супраць АЧС, каб яна не стала і агульнасусветнай праблемай. Мы ж цяпер афіцыйна будзем жыць з афрыканскай чумой свіней па суседстве.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 25.07.13 | | | | Пятніца 26.07.13 | | | | Субота 27.07.13 | | | | Нядзеля 28.07.13 | | | | Пнд.29.07.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +17 | +21 | +19 | +16 | +16 | +20 | +18 | +16 | +17 | +22 | +19 | +15 | +17 | +20 | +19 | +16 | +17 | +20 |
| Ціск | 743 | 743 | 743 | 743 | 743 | 744 | 743 | 744 | 744 | 745 | 744 | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 98 | 97 | 76 | 88 | 96 | 94 | 73 | 85 | 91 | 85 | 58 | 75 | 93 | 84 | 70 | 81 | 95 | 95 | 74 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-У | 2 Пн-З | 3 Пн | 2 Пн-З | 3 Пн | 2 Пн-У | 4 Пн | 2 Пн-У | 2 Пн-З | 2 Пн-У | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пн-У | 4 Пн | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 1 Пн-У | 2 Пн |

## Дзень за днём

**Летам золатавалютныя рэзервы Беларусі пачалі імкліва скарачацца з-за выплат ранейшых крэдытаў. Курс долара перайшоў сімвалічную для беларусаў мяжу 9000 рублёў. Урад РБ даручыў аб-лвыканкамам у 2014 годзе пабудаваць жыллё для выкладчыкаў ВНУ па дагаворах найма. На МКАД запрацавалі стацыянарныя камеры фотафіксацыі парушэнняў правілаў дарожнага руху. З-за анамальна позняй вясны сёлета значна меншы ўраджай ягад, а практычна ўсе сабраныя чарніцы пойдуць на экспарт. Кожны пяты абітурыент не здаў на ЦТ замежную мову, слабыя веды паказалі беларускія школьнікі і па матэматыцы, фізіцы і нават па геаграфіі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** Сілы бяспекі правялі масавыя арышты сярод актывістаў "Братоў-мусульман", якія падтрымлівалі звергнуты рэжым прэзідэнта М. Мурсі, пры ім пагоршыўся стан эканомікі.

**Латвія.** У сувязі з сур'ёзнай успышкай свіной чумы на тэрыторыі Беларусі ветэрынарная служба краіны забараніла ўвоз праз граніцу ў ЕС беларускіх мяса і малочных прадуктаў.

**Літва.** Дзяржаўная ветэрынарна-харчовая служба краіны папрасіла ў ЕС 3,5 мільёна еўра на дапамогу ад наступстваў эпідэміі свіной чумы на тэрыторыі суседняй Беларусі.

**Францыя.** СМІ паведамілі, што спецслужбы краіны на манер ЦРУ праслухоўваюць тэлефонныя размовы французаў, сочаць за іх перапіскай і іншай актыўнай дзейнасцю іх.

**Англія.** Улады краіны нарэшце выслалі на радзіму ў Іарданію радыкальнага ісламіста Абу Катаду, там ідэолага "Аль-Каеды" і паплечніка Бен Ладэна будуць судзіць за тэрарызм.

**Бельгія.** Яшчэ адзін манарх, 79-гадовы кароль бельгійцаў Альберт II адрокся ад трону пасля 20-ці гадоў знаходжання пры ўладзе на карысць 53-гадовага сына прынца Філіпа.

**Зімбабвэ.** На сусветны антырэкорд пайшоў 89-гадовы прэзідэнт Роберт Мугабэ, ён хоча пераабрацца ў шосты раз, сваёй беднай краінай кіруе дыктатар на працягу 26 гадоў.

**ЗША.** Вучоныя Мінесоцкага ўніверсітэта заявілі, што голад на свеце наступіць у 2050 годзе, калі колькасць насельніцтва зямлі дасягне 9,6 млрд. чалавек, не хопіць усім хлеба.

**Расія.** Дэпутаты Дзярждумы РФ адмовіліся ад ліквідацыі Расійскай акадэміі навук і іншых акадэмічных устаноў, як меркавалася раней, РАН застанецца бюджэтнай установай.

**Канада.** Ноччу ў правінцыі Квебэк узарваўся цягнік з нафтапрадуктамі, агонь знішчыў цэнтр горада Лак-Меганцік, некалькі чалавек загінулі, каля 100 прапалі без вестак.

**Кыргыстан.** Глава парламента А. Жээнбекаў запатрабаваў ад калег з Беларусі выдаць братоў Бакіевых, яны вінаваты ў гібелі 90 чалавек, яшчэ каля тысячы былі паранены.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск пацвердзіў, што былы пантыфік Ян Павел II будзе кананізаваны і далучаны да ліку святых, раней ён быў далучаны да ліку блаславёных.

**Перу.** Міністэрства культурнай спадчыны падала ў суд на кампаніі, якія паблізу сталіцы Лімы знеслі старажытныя піраміды перыяду позняга мезаліта ўзростам 4000 гадоў.

**Швецыя.** На судовым працэсе 30-гадовую беларускую журналістку Вольгу Класкоўскую накіравалі на псіхіятрычную экспертызу, яе вінавацяць у замаху на забойства мужа.

**Расія.** Па віне пілота ў аддаленым горным раёне Якуціі разбіўся верталёт МІ-8, з 28 чалавек на борце выжылі толькі 3 члены экіпажа і жанчына з дзіцём.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Да канца года, як заявіў экс-кіраўнік Нацбанка Беларусі С. Багданкевіч, курс $ будзе не меншым за 9500 рублёў з-за дэфіцыту гандлёвага і плацёжнага балансу краіны.

**Брэст.** З-за перапоўненых складоў рабочых завода "Газпрама" "Газаапарат" адправілі ў вымушаныя водпускі, яшчэ больш складаная сітуацыя на дывановым камбінаце горада

**Магілёў.** Ветэрынарные службы абверглі чуткі пра быццам успышку афрыканскай чумы свіней на свінакомплексе "Усход" і нібыта ўведзеным там каранціне ля абласнога цэнтра.

**Брэст.** Супрацоўніца аднаго з банкаў горада скрала з касы за 4 гады працы шляхам махінацый грошай на 1,3 мільярда рублёў, ёй пагражае турма і канфіскацыя маёмасці.

**Мінск.** У кожным раённым цэнтры, як заявіў І-ы намеснік старшыні праўлення Белспажыўсаюза А. Якаўчыц, да 2015 года будзе пабудаваны буйны супермаркет плошчай 500 квадратных метраў.

**Ліда.** На трасе Мінск-Гродна паблізу вёскі Лучкі міліцыя затрымала фуру, у якой вясковы жыхар перавозіў 2,6 тысячы бутэлек гарэлкі кустарнай вытворчасці без адпаведных дакументаў.

**Гродна.** Супраць 63-гадовага гродзенца распачалі крымінальную справу за стральбу па людзях з пнеўматычнай вінтоўкі з прыцэлам, зброю і кулі ў пенсіянера канфіскавалі.

**Магілёў.** Экс-кандыдату ў прэзідэнты М. Статкевічу за амаль 3 гады зняволення толькі ў другі раз дазволілі спатканне з жонкай праз шкло па тэлефоне на працягу двух гадзін.

**Баранавічы.** Пад цягнік на вакзале "Баранавічы Палескія" трапіў і загінуў 77-гадовы мужчына, на наступны дзень пад коламі электрычкі загінула 70-гадовая пенсіянерка.

**Гомель.** Міліцыя затрымала 23-гадовага кандыдата ў майстры спорту па боксе, які на падпітку беспадстаўна збіў 8 прахожых на вуліцы, з іх 3 жанчын, адной зламаў рабро.

**Брэст.** Міністр адукацыі РБ С. Маскевіч абурыўся, што выдаткі абласнога бюджэту на адзін клас-камплект выраслі да 220 млн. рублёў, тут адкрылі шмат класаў з 1 вучнем.

**Маладзечна.** У лясным гушчары паблізу горада міліцыя знайшла і знішчыла міні-завод па вырабе самагону і 4 тысячы літраў, абароты вясковай сямейнай пары дасягалі тоны зелля.

**Барысаў.** Каля двух гадзін ночы 51-гадовы кіроўца з Дагестана заснуў на трасе М1 за рулём і ўрэзаўся ў літоўскую фуру ля вёскі Заруччa, загінулі чацвёра чыноўнікаў расіян.

**Ашмяны.** Супрацоўнікі мясцовай мытні затрымалі на літоўскай граніцы 15 тысяч пар кантрабандных імпартных шкарпэтак фірмы Nike коштам 647 млн. беларускіх рублёў.

**Мінск.** Дырэкцыя чэмпіянату свету-2014 па хакеі ўстанавіла мінімальны кошт уваходных білетаў ад 6 еўра, іх продаж пачнецца ў верасні, усяго будуць згуляны 64 матчы.

# Расійскія вну ўступаюць у барацьбу за беларускіх абітурыентаў



■ Алена СПАСЮК

**Суседняя Расія для беларусаў - замежжа ўмоўнае, і шматлікія маладыя беларусы выбіраюць для сябе тамтэйшыя вну.**

Пакуль вучыцца там, нават калі абраць не прэстыжныя маскоўскі ўніверсітэт, а больш сціплае рэгіянальнае вну, некалькі даражэй, чым на радзіме. Але гэта пакуль…

Беларускія вну абвясцілі пра падвышэнне тарыфаў на навучанне з 1 верасня. Некаторыя ўніверсітэты і інстытуты ўжо нават апублікавалі новыя цэннікі. У 2013/2014 навучальным годзе сярэдні кошт навучання ў мінскіх вну будзе вагацца паміж 11 і 15 млн. рублёў у год. У рэгіянальных вну цэннік трохі ніжэй. Выключэнне складаюць медыцынскія вну, дзе навучанне заўсёды было дарагім.

«У цэлым лічба несупастаўная з Расіяй, Украінай, Польшчай, не кажучы ўжо пра далёкае замежжа», - лічыць прарэктар па навучальнай працы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Генадзь Мацецкі.

Але не абавязкова паступаць у Маскву. Беларусы шукаюць вну танней і знаходзяць. Шматлікія едуць недалёка ад хаты - у Смаленск. Так, навучанне ў Смаленскай дзяржаўнай медыцынскай акадэміі каштуе на лячэбным, педыятрычным і фармацэўтычным (вочная форма) факультэтах - 73 200 расійскіх рублёў (амаль 20 млн. беларускіх), на стаматалагічным факультэце - 84 180 (амаль 23 млн.).

Атрымаць кваліфікацыю юрыста ў Смаленскім гуманітарным універсітэце можна за 39 600 расійскіх рублёў (10,8 млн. беларускіх). У Маскоўскім дзяржаўным юрыдычным універсітэце зусім іншыя кошты - ад 180 тыс. расійскіх рублёў (49 млн. беларускіх). У Маскоўскім інстытуце дзяржаўнага кіравання і права вучыцца можна за 79 тыс. расійскіх рублёў (21,5 млн. беларускіх).

Характэрна, што расійскія вну не хаваюць, што зацікаўлены ў беларускіх абітурыентах, якія паказваюць высокія вынікі.

З года ў год, распавёў Naviny.by член прыёмнай камісіі БДУ Вячаслаў Малафееў, прадстаўнікі расійскіх універсітэтаў адсочваюць на алімпіядах нашых удзельнікаў і прапануюць вучыцца ў расійскіх універсітэтах на бюджэце. І кожны год здараецца, што ўжо пасля заканчэння прыёмнай кампаніі вызваляюцца месцы на прэстыжных факультэтах менавіта таму, што абітурыент падумае-падумае, ды і прыме ўжо пасля залічэння ў беларускую ВНУ прапанову расійскага боку. Пры гэтым за слабых і нават зусім непадрыхтаваных абітурыентаў, якія не набралі неабходнага мінімальнага бала на ЦТ, бітва таксама ідзе - паміж беларускімі ССНУ, каледжамі і платнымі аддзяленнямі расійскіх ВНУ. Відавочна, што беларускім ВНУ ўсё часцей даводзіцца канкураваць за студэнта не толькі ўнутры краіны, але і на міжнародным узроўні. Гэтая канкурэнцыя азначае ў будучыні і барацьбу за работніка. Пры сучасных дэмаграфічных працэсах, неўзабаве востра паўстане пытанне недахопу працоўных рэсурсаў. І вялікае пытанне, ці зможа Беларусь не прайграць гэтую бітву?

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Руба.** З адставаннем каля 4-х месяцаў ад графіку кітайская карпарацыя "CNEEC" ввдзе ўзвядзенне Віцебскай ГЭС на 40 МВт на левым беразе Дзвіны, яе запуск праз 3,5 гады.

**Віцебск.** На пасяховай у мінулым трыкатажнай фабрыцы "КІМ" пайшлі затрымкі выплат зарплат людзям, яе склады перапоўнены гатовай прадукцыяй, якая не знаходзіць збыту.

**Лепель.** Адразу два аб'екты набыў інвестар на аўкцыёне фонду "Віцебскаблмаёмасць", за былыя сховішчы дзіцячага цэнтра "Жемчужина" ў Бароўцы ён заплаціў 231 мільён рублёў.

**Полацк.** Да 2015 года ў горадзе з'явіцца абласны рэабілітацыйны цэнтр для хворых алкагалізмам з курсам лячэння кожнага па індывідуальнай праграме ад, якая працягнецца ад 6 да 12 месяцаў.

**Бешанковічы.** На падпітку 48-гадовы жыхар вёскі Бачэйкава палез чысціць калодзеж і ледзь не ўтапіўся, небараку дасталі без прытомнасці з глыбіні 8 метраў байцы МНС.

**Шуміліна.** У крыві вадзіцеля-ліхача, які разбіўся вечарам насмерць ля райённага цэнтра ад удару ў заслон ДАІ, эксперты выявілі 3,2 праміле алкаголю (цяжкая ступень ап'янення).

**Віцебск.** З прыёма ў беларускай сталіцы начальнік УУС Віцебскага аблвыканкама палкоўнік Ігар Яўсееў вярнуўся дамоў з новымі пагонамі генерал-маёра міліцыі.

**Паставы.** Паблізу Палаца Тызенгаўзаў мясцовае райпо завяршае будаўніцтва буйнейшага ў райцэнтры супермаркета гандлёвай сеткі "Родны кут", у горад прыйшоў і "Дабраном".

**Сянно.** На воінскіх могілках у райцэнтры ўрачыста перазахавалі астанкі знойдзеных яшчэ 11 невядомых байцоў Чырвонай Арміі, летам 1941 года тут былі вельмі жорсткія баі.

**Наваполацк.** Па рашэнні суда прадпрымальнік, які рамантаваў мабільныя тэлефоны ў горадзе Полацку, пазбавіўся 127 мільёнаў рублёў даходу з-за адсутнасці ў пашпарце штампу аб рэгістрацыі шлюбу.

**Дуброўна.** На працягу трох дзён праходзіў юбілейны міжнародны фестываль песні і музыкі "Дняпроўскія галасы", прысвечаны 620-годдзю райцэнтра з удзелам 10 краін.

**Лёзна.** У выніку сутыкнення раніцай на дарозе з райцэнтра на Дабрамыслі з ласём трагічна загінуў у сваім "Фіяце Пунта" 29-гадовы мужчына, жывёла таксама загінула.

**Расоны.** На фестывалі сельскага турызму "Заборскі фэст" свае паслугі рэкламавалі 8 аграсядзіб Віцебшчыны, у раёне каля 30 такіх сядзіб, у вобласці - 450 для прыёму гасцей.

**Віцебск.** Да "Славянскага базару" адрамантавалі гарадскі медвыцвярэзнік, міліцыя ізалявала ўсіх бяздомных і дэбашыраў, яе ўзмацнілі амонаўцы з трох абласцей Беларусі.

**Полацк.** Толькі пасля байкоту адной гульні чэмпіянату РБ па футболе камандзе ФК "Полацк" пачалі выплочваць заробкі, ФК "Віцебск" затрымаў пачатак свайго матчу дома.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Вішня, вішанька!

## У Глыбокім распачаўся першы тыднёвы Вішнёвы фэст

■ Уладзімір Скрабатун

### Наша вішня смачная ўсім!

Глыбокае нарэшце дачакалася свайго арыгінальнага фэсту. А то ў Паставах – "Звіняць цымбалы і гармонік, у іншых жа суседзяў – "Журавы і журавіны Мёрскага краю". А што ў нас! Нічога не звініць і не спее?

А які ў нас быў бы выбар раней, каб не вішні? Чым слыннае Глыбокае? Адразу прыходзяць на памяць глыбоцкія клёцкі! А чаму, мог бы быць і такі фэст – "Глыбоцкія клёцкі". Зрэшты, яшчэ мог бы быць і "Рыбны фэст". Азёры ёсць, і рыба ў іх. Ну, гэта на той выпадак, калі б не было іншых ідэй! А вось "Вішнёвы фэст" – супер ідэя! Лепшае з таго, што можна было выбраць! І аналагаў у краіне няма! Трэба дзякаваць Богу, што ў якіх-небудзь Докшыцах, Шаркоўшчыне ці Верхнядзвінску не дацямілі да гэтага.

Вішнямі Глыбокае і Глыбоччына славілася здаўна! Ёсць нават і прадвеснік, ключавая фігура Вішнёвага фэсту, – Баляслаў Лапыр, аграном і патрыёт. У 1930-ыя гг, яшчэ за "польскім часам", ён спрычыніўся да закладкі высокагатунковых вішнёвых садоў на Глыбоччыне, калі вішня прыйшла ў кожную сялянскую сядзібу. Унёсак, які зрабіў легендарны аграном, стаўся адчувальны на доўгія дзесяцігоддзі: у Глыбокае на перыяд саспявання вішняў прыязджаюць на закупы перакупшчыкі аж з Віцебска, не кажучы аб Полацку і Наваполацку. А ўжо адтуль могуць патрапіць і ў Расію. Ды й глыбачане не спяць у шапку – самі вязуць туды, дзе ёсць попыт на нашую вішню.

### Усе сцягі – у госці да нас!

На Цэнтральным пляцы можна налічыць 13 сцягоў. Праўда, чатыры з іх – нашыя: сцяг Вішнёвага фэсту, глыбоцкі, абласны і сцяг краіны. Ёсць сцяг Нідэрландаў, ФРГ, Ізраіля, Польшчы, Расіі, Латвіі, Літвы, Малдовы, Арменіі. Столькі прыехала альбо яшчэ даедзе госцяў.

Гэта – добра! Трэба развіваць міжнародныя сувязі, калі не на ўзроўні краіны, што не вельмі атрымліваецца, то хоць на мясцовым узроўні. Глядзіш, і з'явіцца нейкі сумесны праект, могуць быць укладзеныя інвестыцыі і ў наш горад.

### У Глыбокім адкрыты помнік глыбоцкай вішні

Надвор'е ў нядзельны дзень зліталася. Хоць на далягляде і віселі суровыя хмары, але не было яўных



прыкметаў, што яны сарвуць адкрыццё фэсту.

А 17-й гадзіне, ля дома па вул. Леніна, 36, адбылося самае ўрачыстае мерапрыемства з усяго тыднёвага фэсту – адкрыццё помніка глыбоцкай вішні. Тут сабралася процьма народу, але найбольш з фотаапаратамі, відэакамерамі. Пранікнёнымі словамі мерапрыемства адкрыла каралева Вішнёвага фестывалю. Яна назвала помнік «абярэгам» нашага гораду, адметнасцю вішнёвай сталіцы краіны.

Затым браў слова старшыня Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэту Алег Морхат. Ён павіншаваў прысутных са святам. Сярод іншага ён адзначыў, што вішня для Глыбокага – нешта своеасаблівае, дар Божы, бо не ўсюды яна родзіць і расце. А ў нас яна некалі расла паўсюль: на прадпрыемствах, у калгасах, вясковых і гарадскіх падворках… Вішня ўвесну дорыць нам прыгажосць і радасць сваёй белай квецвенню, а ў ліпені шчодра дорыць нам багацце. Доказам таму – кошт вядра вішняў сёлета даходзіць да 200 тысяч (Хтосьці з прысутных кінуў рэпліку: "Ужо 240 тысяч!") Між тым, апошнім часам, мы пачалі губляць свой брэнд, аднак мы своечасова схамянуліся… Не згубім свой брэнд! На заканчэнне кіраўнік раёна падзякаваў прысутным глыбачанам за іх унёсак у дабрабыт горада Глыбокае.

Заключныя слова было прадстаўлена Івану Казаку, скульптару, рукамі якога быў зроблены гэты помнік глыбоцкай вішні.

Пасля ўрачыстага адкрыцця помніка глыбоцкай вішні, адсюль пачалося святочнае шэсце да Цэнтральнага пляца, дзе ўжо было шмат прысутных, якія чакалі афіцыйнага адкрыцця Вішнёвага фэсту.

### Старшыня райвыканкама згадаў легендарнага агранома Баляслава Лапыра

Адкрыццё Вішнёвага фэсту адкрылася з зачыткі каралеўскага ўказу на галоўнай сцэне. Указ выдала каралева Вішнёвага фесту. Паводле гэтага ўказу «*Вішнёвы фэст у слаўным горадзе Глыбокім мусіць адбывацца штогод. Кожны жыхар горада, які мае сядзібу, абавязаны пасадзіць вішнёвы сад. Даглядаць яго і шанаваць як роднае дзіця. Пертаварыць горад Глыбокае ў вішнёвую сталіцу ўсяе Беларусі…*»

Каралева вішнёвага фэсту перадала віншаванні ўсім прысутным на фэсце: ад дэлегацыі Віцебскай вобласці, гасцей з Нідэрландаў, Германіі, Польшчы, Малдовы, Арменіі, Ізраіля, Расіі, ад 19 тэрыторый Латвіі, Літвы.

Каралева фэсту перадала мікрафон гаспадару фэсту Алегу Морхату, старшыні Глыбоцкага райвыканкама. Ён у прыватнасці адзначыў:

*– На Віцебічыне ўсе добра ведаюць, што цяжка адшукаць вішні смачней глыбоцкіх. Калісьці вішнёвыя сады на Глыбоччыне заклаў мясцовы селекцыянер Баляслаў Лапыр. З яго садоў сакавітая, салодкая, зімаўстойлівая вішня прыйшла ў тутэйшыя сялянскія сядзібы, а потым распаўсюдзілася па ўсім нашым краі. Да гэтага часу вішнёвая слава Глыбокага перадаецца з вуснаў у вусны.*

Далей старшыня райвыканкама выказаў удзячнасць жыхарам горада за тое, што госці фэсту прыехалі ў чысты, утульны, прыгожы, памаладзелы на паўстагоддзя горад – у гэтым заслуга кожнага з нас…

Усцешна тое, што старшыня райвыканкама зрабіў сваю прамову на добрай беларускай мове.

Свята працягвалася далей. Самыя прыгожыя дзяўчаты Глыбокага паўдзельнічалі ў конкурсе "Вішнёвая каралева". Тут дзяўчаты мусілі спрачацца не толькі ў сваёй прыгажосці, але ў таленце і артыстызме.

Затым калектывы мастацкай самадзейнасці раёна правялі канцэртную праграму "Вішанькі-чарэшанькі". І не цяжка здагадацца, што асноўнай тэматыкай песняў была прыгажосць квітнеючага вішнёвага сада, а квітнеючая вішня заўсёды была сімвалам жаночай прыгажосці, яе атаясамлялі заўсёды з нявестай.

Першы дзень Вішнёвага фэсту завершыўся вішнёвай дыскатэкай. Пайшлі ў пляс нават людзі досыць сталага веку.

***Тэма мае працяг у наступных нумарах газеты.***



**Адкрыццё помніка глыбоцкай вішні. Прамаўляе скульптар Іван Казак, аўтар скульптурнай кампазіцыі (злева), далей (у цэнтры) Алег Морхат, старшыня Глыбоцкага райвыканкама, і каралева Вішнёвага фэсту.** *Фота Ул. Скрабатуна.*




**Які Вішнёвы фэст без БелАграПрамБанка!**

# НА ФЭСТ У ЛУЧАЙ!!!

Лучайская парафія (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) запрашае на фэст у гонар святой Ганны 27 ліпеня. Урачыстую Літургію, з удзелам хору "Fiat" мёрскай парафіі, узначаліць прадстаўнік Апостальскай Нунцыятуры ў Казахстане кс. др Аляксандр Рагіня. Пасля святой Імшы будуць урачыста перададзеныя для лучайскай парафіі рэліквіі святога Андрэя Баболі, Апекуна Беларусі.

Усіх таксама чакае святочная праграма з забавамі, прысмакамі і, канешне, добрым канцэртам. Сёлета парадуюць вернікам сваім выступам гурт

«RECHA», гурт «Горад N» і іншыя вядомыя беларускія выканаўцы. Пачатак фэсту а 16 гадзіны і да ночы (з феерверкам).!!!

Будзем рады Вас бачыць у Лучаі.

*кс. Мікалай Ліпскі*

**26 ліпеня па ўсёй рэспубліцы праводзіцца адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам**

# «Прышпілі сябе і сваіх пасажыраў!»

Выкарыстанне рамянёў бяспекі неабходна, незалежна ад таго, ці знаходзіцеся Вы ў рысе горада ці на трасе. Толькі ці ўсе разумеюць гэту неабходнасць? Аўтамабіль – складаная тэхнічная прылада. Ні ў каго не ўзнікае сумневу, што ўсе кампаненты гэтай прылады неабходныя... Колы і рухавік забяспечваюць магчымасць руху, каробка перадач дазваляе змяняць хуткасць, фары неабходны для язды ўначы, і г.д. Чаму ж тады выкарыстанне рамянёў бяспекі, якія таксама з'яўляюцца неад'емнай часткай аўтамабіля, лічаць празмернасцю і часцяком грэбуюць імі?

Бо клопат пра бяспеку, па меркаванні навукоўцаў, знаходзіцца на другім месцы пасля самых надзённых запатрабаванняў чалавека ў ежы і вадзе.

На жаль, сярод кіроўцаў, асабліва маладых, існуе меркаванне пра тое, што прышпільваецца – гэта прыкмета слабасці... Але жыццё штодня даказвае тое, што выкарыстанне рамянёў бяспекі часцяком становіцца адзіным чыннікам выратавання ад траўмаў ці нават гібелі кіроўцы і пасажыраў.

Таксама, па меркаванні шматлікіх кіроўцаў, наяўнасць падушкі бяспекі дазваляе пазбегнуць выкарыстання рамянёў бяспекі. Аднак сучасная статыстыка сцвярджае, што выкарыстанне рамянёў бяспекі ратуе ад атрымання траўмаў у 70% выпадкаў, у той час як падушак бяспекі – толькі ў 30%. Пры бакавым сутыкненні шанцы ацалець у прышпіленых рамянямі павялічваюцца ў 5 разоў, пры лабавым – у 10 раз, а ў выпадку перакульвання аўта можна пазбегнуць траўмаў наогул! Дарэчы, у апошнім выпадку падушкі бяспекі становяцца практычна не патрэбныя, паколькі спрацоўваюць толькі пры сур'ёзных ДТЗ і пры моцных ударах. У той жа час рамяні бяспекі ўтрымліваюць на невялікіх хуткасцях і ў любых сітуацыях. Напрыклад, пры заносе прышпіленаму кіроўцу лягчэй скантэнтравацца на кіраванні аўта, не думаючы пры гэтым, як утрымацца ў крэсле. На жаль, каля 70% кіроўцаў у нашай краіне грэбуюць такім правілам, як выкарыстанне рамянёў бяспекі. Пры гэтым храбрацам не прыходзіць у галаву думка пра тое, што яны адказваюць не толькі за сваю бяспеку, але таксама за бяспеку, а часцяком і за жыццё сваіх пасажыраў.

Нагадваем, што артыкул 18.12 ч.4 КоАП РБ прадугледжвае папярэджанне і штраф у памеры да 1 базавай велічыні за кіраванне транспартным сродкам кіроўцам, які не прышпілены рамянём бяспекі.

***М.А. Цынковіч,***

*старэйшы Інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*

Працяг тэмы з «ВГ» №29 (693).

# Сцяжынкамі Язэпа Драздовіча

■ Зміцер Лупач

**На Глыбоччыне ў вёсцы Перадолы 21 ліпеня завяршыўся юбілейны XX драздовіцкі пленэр.**

Праходзіў ён на бацькоўскай сядзібе Мар'яна Місевіча. У ім прынялі ўдзел Алесь і Ігар Марачкіны, Святлана Баранкоўская, Вячаслаў Шамшур, Алесь і Ігар Саўчанкі, Іван Іваноў, Мікола Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў, Віктар Крук, Алесь Шыёнак.

Нагадаем, слова пленэр паходзіць ад французскіх слоў en plein air - «на адкрытым паветры» і азначае жывапісную тэхніку выявы аб'ектаў пры натуральным святле і ў натуральных умовах. Гэты тэрмін таксама выкарыстоўваецца для абазначэння праўдзівага адлюстравання маляўнічага багацця натуры, усіх змяненняў колеру ў натуральных умовах, пры актыўнай ролі святла і паветра. Дзякуючы пленэрам фарбы сталі вырабляць у тубах, да гэтага мастакі рабілі іх самі ў сваіх майстэрнях.

Падчас пленэру мастакі намалявалі па некалькі карцін. Пазней, пасля дапрацоўкі, яны будуць выстаўляцца ў розных гарадах Беларусі. Некаторыя сюжэты паўтараюцца, але ў кожнага мастака яны выкананы па-свойму. Гэта і букет кветак, і царква ў Плісе. Кожны мастак убачыў у гэтых сюжэтах нешта сваё, адметнае.

За час пленэру мастакі не толькі малявалі карціны, але таксама займаліся праглядам кінафільмаў пра Язэпа Драздовіча, Міхася Райчонка, іншых дакументальных кінастужак. Дарэчы, ідэя правядзення драздовіцкіх пленэраў належыць Міхасю Райчонку, ён арганізаваў першы пленэр у 1996 годзе. На жаль, лёс адмераў Міхасю кароткае жыццё, яго сэрца спынілася на 26-м годзе жыцця. Зараз справу сына працягвае Ада Райчонак.

Таксама на пленэры адбылася прэзентацыя кнігі Алеся Марачкіна "Калодзеж у жыцце". Алесь Марачкін вядомы не толькі як мастак, але як і паэт. Пад псеўданімам Алесь Мара ён друкаваўся ў розных перыядычных выданнях. А вось асобнай кнігай яго творы выйшлі ўпершыню. Кожны ўдзельнік атрымаў кнігу з аўтографам аўтара.

У кнізе змешчаныя вершы і паэмы розных часоў, прысутнічаюць там як лірычныя вершы, так і творы сацыяльна-грамадзянскага гучання, шмат прысвячэнняў вядомым асобам.

Ёсць сярод іх і верш, прысвечаны Зянону Пазняку.

Метраполія… Метраполія.  
Ты на ісціну манаполія.  
На балоце пень.  
Жабы ква-ква-ква.  
Гэта трэці Рым,  
Гэта тут Масква.

Метраполія… Метраполія.  
Не адзіны вой тут  
у полі я.  
Шабелькай махну,  
як у песні той.  
Прачынайся, люд!  
Цішыня… Спакой.  
Метраполія… Метраполія.  
Дзе ты, Нестар наш  
з Гуляй-полія.  
Беражэ сябе.  
Для каго? Куды?  
Ты старэеш, брат.  
Дні лятуць… гады.  
Нехта ўспомне так:  
Быў калісь Пазьняк.  
Ах, браточак мой,  
позна… Позна як.

Мастакі плануюць сабрацца ў Мар'яна Місевіча яшчэ раз у кастрычніку гэтага года. Якраз у гэты час будзе святкавацца 125-годдзе з дня нараджэння Язэпа Драздовіча, магіла якога знаходзіцца ў вёсцы Ліпляне, што непадалёк ад Перадолаў.

Выставы карцін па выніках пленэру распачнуцца ў снежні гэтага года. Яны пройдуць спачатку ў Віцебску, Наваполацку, Полацку, потым у раённых гарадах. Таму пры нагодзе запрашаем чытачоў наведаць гэтыя выставы.



**Перадолы. Мастак Алесь Саўчанка (Лепель) прэзентуе свае работы.** *Фота Зміцера Лупача.*



**Перадолы. Удзельнікі пленэру са сваім сцягам. У цэнтры – Ада Эльеўна Райчонак, якая працягвае справу свайго заўчасна памерлага сына мастака Міхася Райчонка, які ў 1996 годзе арганізаваў першы пленэр. Цяперашні быў 20-ы.Справа (сядзіць) – Мар'ян Місевіч, які прадставіў бацькоўскую сядзібу для правядзення пленэру.** *Фота Зміцера Лупача.*





**Мастак Алесь Марачкін (у цэнтры) прэзентуе кнігу сваіх вершаў «Калодзеж у жыце».** *Фота Зміцера Лупача.*



**Перадолы. На пленэры. Малады таленавіты мастак Ігар Саўчанка, сын мастака Алеся Саўчанкі.** *Фота Зміцера Лупача.*

# Малыя рэкі – вялікія праблемы: працуем разам над аховай і будучыняй малых рэк басейна ракі Дзісна

**Алег Лысёнак**, *старшыня праўлення МЭГА "Прырода і мы", каардынатар праекта, г. Глыбокае.*

Упершыню ў нашым рэгіёне рэалізуецца праект "Малыя рэкі – вялікія праблемы: працуем разам над аховай і будучыняй малых рэк басейна ракі Дзісна". Праект фінансуецца Еўрапейскім Саюзам. **Агульны бюджэт праекта 331000 еўра.** Працягласць праекта 24 месяцы: з мая 2013 года па май 2015 года.

Вядучы партнёр: мясцовы Фонд садзейнічання развіццю міжнароднага дыялога і супрацоўніцтва "Інтэракцыя" (Беларусь).

Партнёры: Міжнароднае экалагічнае грамадскае аб'яднанне "Прырода і мы".

Удзельнікі: Глыбоцкі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі раёны.

Месца правядзення: сярэдняя школа №1, Беларусь, Віцебская вобласць, г. Глыбокае, вул. Дзяржынскага, д.43.

**Чацвер, 25 ліпеня 2013 года**: 1-е рабочае паседжанне партнёраў па праекце, экспертаў і зацікаўленых асоб "Прэзентацыя праекта".

**12.30-13.00** – рэгістрацыя ўдзельнікаў.

Удзельнікі: прадстаўнікі райвыканкамаў-партнёраў па праекце, МЭГА "Прырода і мы", старшыня (супрацоўнік)прадстаўніцтва ЕС у Рэспубліцы Беларусь, мясцовыя каардынатары ад партнёраў па праекце і эксперты з групы па рэалізацыі праекта (прадстаўнікі Фонда "Інтэракцыя", адпаведных аддзелаў райвыканкамаў-партнёраў па праекце), прадстаўнікі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Віцебскага абласнога камітэта і раённых інспекцый прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, спецыялісты ў вобласці экалогіі водных рэсурсаў, прадстаўнікі грамадскіх экалагічных арганізацый, зацікаўленых бакоў, СМІ.

**13.00-13.25** – прывітанне ад арганізатараў і партнёраў па праекце.

(Прадстаўнікі Глыбоцкага, Пастаўскага і Шаркоўшчынскага райвыканкамаў; дырэктар Фонда "Інтэракцыя" Іван Шчадронак; старшыня (супрацоўнік) Прадстаўніцтва ЕС у Рэспубліцы Беларусь).

**13.25-13.50** – прэзентацыя праекта, да **15.25.**

**15.25** – нарада "Роля грамадскіх (няўрадавых) арганізацый ва ўстойлівым развіцці малых рэк".

**Пятніца, 26 ліпеня 2013 года.** Стартавая сустрэча партнёраў па праекце "Кіраванне праектам; адміністратыўныя і фінансавыя пытанні".

Удзельнікі: мясцовыя каардынатары ад партнёраў па праекце, эксперты з групы па рэалізацыі праекта (прадстаўнікі Фонда "Інтэракцыя", адпаведных аддзелаў райвыканкамаў-партнёраў, прадстаўнікі МЭГА "Прырода і мы").

**10.00-10.10** – прывітанне і знаёмства ўдзельнікаў сустрэчы. Уступнае слова мадэратара мерапрыемства па павестцы дня (дырэктар Фонда "Інтэракцыя" Іван Шчадронак).

Далей адбудзецца прэзентацыя праекта: мэты і задачы, мерапрыемствы, якія плануюцца і вынікі праекта, бюджэт праекта; фарміраванне арганізацыйнай структуры праекта; партнёрскае пагадненне.

**15.00-15.20** – падвядзенне вынікаў.

І што самае галоўнае ў гэтым праекце – гэта практычная работа па выратаванні малых рэк, паркаў. Канкрэтна – гэта шматпакутны парк Залессе, сядзіба рода Корсакаў, рака Дабрылаўка, якая гіне, парк у Варапаеве, Германавічах, рака Голбіца ў Пастаўскім раёне, рака Янка ў Шаркоўшчынскім раёне. У ходзе рэалізацыі праекта будуць створаны экалагічныя пасты МЭГА "Прырода і мы" ў канкрэтных сельскіх выканкамах, а таксама дзіцяча-юнацкія экалагічныя інспекцыі ў школах. Да рэалізацыі праекта патрэбна дапамога грамадскасці, мы павінны забыцца на словы: "Рэкі ўжо не выратаваць, патрэбна было думаць раней".

Канечне, страшна бачыць, як гіне птушаня лебедзя, глынуўшы вады Глыбоцкіх азёр, як павялічваецца смяротнасць жыхароў вёсак, размешчаных ля малых гінучых рэк. Але чамусьці нас гэта не хвалюе, мы працягваем засмечваць рэкі, азёры, знішчаць дрэвы.

**Я звяртаюся да членаў МЭГА "Прырода і мы", старшыняў сельскіх выканкамаў, дырэктараў школ прыбыць у СШ №1 г. Глыбокае і прыняць удзел у нарадзе 25-26 ліпеня 2013 года.**

# Браканьеры дзейнічаюць нахабна

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Праблеме збору ягад у нашых лясах надаецца шмат увагі, аднак, не гледзячы на ўсе высілкі міжраённай інспекцыі, на жаль, лясных браканьераў менш не становіцца. Штотыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ў лясах раёна затрымоўваюцца грамадзяне, якія ажыццяўляюць збор ягад чарніцы, брусніцы пры дапамозе камбайнаў. Браканьеры дзейнічаюць нахабна, на заўвагі простых грамадзян рэагуюць часам вельмі агрэсіўна, пагражаючы ім расправай, але, як толькі трапляюць у рукі інспектараў, іх не пазнаць, парушальнікі становяцца ветлівымі і цісную на літасць. Але адказваць перад законам усё адно прыйдзецца.

16 ліпеня 2013 года ў лясным масіве Галубіцкай пушчы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрымана жыхарка в. Галубічы Глыбоцкага раёна за збор ягад чарніцы грабянцом, накладзены штраф.

У гэты ж дзень затрымана жыхарка в. Гатаўшчына Глыбоцкага раёна за аналагічнае правапарушэнне, таксама аштрафаваная.

20 ліпеня ў лясным масіве Галубіцкай пушчы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі была затрымана жыхарка в. Кішы Глыбоцкага раёна грамадзянка Т., якая праводзіла збор ягад чарніцы «камбайнам», на месцы збору ягад засталіся толькі голыя галінкі, ніводнага лісточка. Прыйдзецца парушальніцы пакрыць прычыненую прыродзе шкоду, а таксама выплаціць штраф.

20 ліпеня каля 22 гадзін вечара супрацоўнікі міжрайінспекцыі сумесна з працаўнікамі рыбгаса «Навінкі» Пастаўскага раёна праводзілі рэйд па спыненні крадзяжу сажалкавай рыбы з сажалак рыбгаса. Улоў інспектараў стаўся добры, адразу 4 жыхароў Шаркоўшчынскага раёна затрымалі інспектары. У парушальнікаў канфіскавана 50 кг. выкрадзенай сажалкавай рыбы (карпа), зараз затрыманым прыйдзецца выплаціць не толькі штраф за парушэнне, але і шкоду рыбгасу за выкрадзеную рыбу.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14 МТС, «гарачая лінія» 2-86-70 – кругласутачна.

# Правядзём уборку ўраджаю без электратраўмаў і аварый

**Ішуцін А.Н.** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

Наступіў ліпень! Надышло спрыяльнае надвор'е, і прыйшла пара ўборкі ўраджаю, што ў сваю чаргу звязана з вялікім аб'ёмам сельскагаспадарчых работ, якія часта праходзяць паблізу ці пад паветранымі лініямі электраперадач. У сваю чаргу тэрыторыі ахоўных зон ліній электраперадач не вымаюцца з сельскагаспадарчага звароту ці іншага выкарыстання.

Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэння звычайных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак усталёўваюцца ахоўныя зоны. І не выкананне правіл работы ў ахоўных зонах электраперадач часта прыводзяць да няшчасных выпадкаў.

Парадак і ўмовы правядзення работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгодненыя з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

У ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

- ужыванне высокагабарытных машын і механізмаў, без дамовы з уладальнікам электрычных сетак і нарады-допуску;
- прыпынак машын і механізмаў;
- транспартаванне высокагабарытных грузаў;
- знаходжанне персаналу, які абслугоўвае ўборку на аўтамашыне, трактары, камбайне па-за кабінай ці ахоўнага брыля;
- праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання ці да няшчасных выпадкаў.

Кіраўнікам гаспадарак неабходна правесці навучанне і інструктажы па электрабяспецы ўсім механізатарам якія ўдзельнічаюць ва ўборачнай кампаніі.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 «Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.

# Лавіць рыбу пад ЛЭП – забаронена!

**А.С. Крывёнак,** *дзяржаўны інспектар на энергетычнаму нагляду.*

**22 красавіка 2013 г. у раёне ракі Лабжанка (г. Клімавічы Магілёўскай вобласці) жыхар г. Магілёва (29 год) пры лоўлі рыбы паблізу паветранай лініі 35кВ у пралётах апор №2-3 наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да праваДоў паветранай лініі і быў смяротна траўмаваны электрычным токам. Двое дзяцей засталіся сіротамі. Хоць на апоры №2 быў размешчаны плакат пра забарону рыбнай лоўлі паблізу паветранай лініі электраперадачы.**

Практычна аналагічны выпадак адбыўся 7 траўня гэтага года паблізу вадаёма ачышчальных збудаванняў у раёне н.п. Пашковічы Мінскага раёна. Жыхар г. Мінска 1961 года нараджэння пры падыходзе да вадаёма з раскладзенай вудай (5 каленаў) у пралёце апор №3-4 110кВ Калядзічы-Шабаны наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да праводаў ВЛ і быў смяротна траўмаваны электрычным токам.

**ЭНЕРГАНАГЛЯД ПАПЯРЭДЖВАЕ:**

Электраўстаноўкі небяспечныя – паражэнне чалавека электратокам можа адбыцца без непасрэднага дакранання да токаводных частак, часам досыць проста наблізіцца да іх на недапушчальную адлегласць. Усякага роду дзеяння ў непасрэднай блізкасці ад электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.

Не варта падвяргаць смяротнай небяспецы паражэння электрычным токам сваё жыццё і жыццё іншых людзей.

## МНС інфармуе
**на 23.07.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 625;
Гібель людзей – 84, з іх 1 дзіця;
Урон – 2734,743 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў –32;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 303.4 млн. руб.

## УВАГА – АБМЕЖАВАННІ РУХУ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ!

**Паважаныя жыхары і госці г. Глыбокае,** у сувязі з правядзеннем мерапрыемстваў «Вішнёвы фэст» у цэнтральнай частцы г. Глыбокае 21 і 27 ліпеня 2013 года будзе забаронены рух транспартных сродкаў па вуліцах Леніна (ад скрыжавання Леніна - Чырвонаармейская да скрыжавання Леніна - Савецкая), Гагарына, Маскоўская (ад скрыжавання Леніна - Маскоўская да скрыжавання Кірава - Маскоўская), Энгельса.

Вельмі вялікая просьба – загадзя прадумаць свой маршрут руху або наогул адмовіцца ад кіравання транспартнымі сродкамі ў дадзены перыяд часу.

*ДАІ*



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 29 ліпеня



**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.00** Фильм-катастрофа **«34-й скорый»** (СССР).
**11.45** «Железные мастера». Док.фильм («Белвидеоцентр»).
**12.10** День в большом городе.
**13.15** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звездные похудения».
**14.15** Вокруг планеты.
**15.15, 18.40** Новости региона.
**15.25** Журналистское расследование.
**15.55** Док.сериал «Азбука хорошего самочувствия» (Австралия).
**16.30** Все путем!
**17.00** Лирическая комедия **«Трын-трава»** (СССР).
**19.20** Специальный репортаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х.
**20.00** **«Земский доктор. Жизнь заново»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** **«Московский дворик»** (Россия).
**23.25** День спорта.
**23.40** Фильм-катастрофа **«34-й скорый»**



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Закрытая школа»**.
**12.10** **«Женский доктор 2»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** «Звездные мамаши».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Магия звука, или О чем звонит колокол».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Выхожу тебя искать 2»**.
**22.15** **«Тюдоры»**.
**00.25** Приключенческий фильм **«Тело Дженнифер»**.
**02.10-02.40** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.



**09.05** Иронический детектив **«Поцелуй Сократа»** (Беларусь).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Фильм-сказка **«Варвара-краса , длинная коса»** (СССР).
**12.25** Сериал **«Талаш»** («Беларусьфильм»). 1-я – 4-я серии.
**16.15** Под грифом «Известные».
**16.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**17.55** Иронический детектив **«Поцелуй Сократа»** (Беларусь).
**19.00** **«Люди Шпака»** (Россия).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Шерлок Холмс и доктор Ватсон»»Знакомство».**
**22.55** Док.сериал «Нетронутая планета» (Чехия-Великобритания). 1-я серия.
**23.25** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»**

СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.».
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.20** «Смотреть всем!».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** **«Слово женщине»**. Сериал.
**12.30** «Джейми: в поисках вкуса».
**13.00** «Женщины XX века» «Татьяна Пельтцер. Королева эпизода».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Звездный ринг». Дайджест. «The best of the best».
**15.45** «Доброе утро, Вьетнам!».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Под защитой».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Обманутые наукой».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Ричард Гир и Клэр Дэйнс в фильме **«ПАСТВА»**. США, 2006г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.40** **«Туристы»**. Сериал.



**7:00** Размовы эксперта
**7:15** Побач з намі
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:45** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, рэж. Вольга Швед, 2012 г., Беларусь
**8:20** «Таямніцы Ватыкану» дак. серыял: 8 серыя
**8:50** «Джазмен з ГУЛАГу»
**9:50** Дакументальная гадзіна: «Нюрнбэрг»
**10:40** Еўропа сёння
**11:05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Машына зменаў»**: 3 і 4 серыі
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** **«Час гонару»**: 45 серыя
**18:50** Еўропа сёння
**19:20** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, рэж. Вольга Швед, 2012 г., Беларусь
**19:50** Калыханка для самых маленькіх: «Апоседы таты Бабра»
**20:05** Хто ёсць кім?: «Ганна Хітрык: "Думай пра добрае"»
**20:20** Два на два
**20:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**22:00** Побач з намі
**22:15** Фільматэка майстроў: **«Панна Ніхто»**
**23:55** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 4 серыя
**0:40** Размовы эксперта
**1:00** Аб'ектыў
**1:25** Студыя «Белсат»

